Эксклюзіўнае інтэрв'ю

Мікалая Мацiеўскага

«Вольнаму Глыбокаму»

2 стар.

Грошы будуць!



кажа Р.І. Тарасевіч

3 стар.

Каханне з 1-га погляду



па-глы-боцку

5 стар.

16 старонак TV праграма Рэклама

ТЫДНЁВІК ПАЎНОЧНА-ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

БРАСЛАЎ, ГЛЫБОКАЕ, ДОКШЫЦЫ, МЁРЫ, ПАСТАВЫ, УШАЧЫ, ШАРКОЎШЧЫНА

# Вольнае Глыбокае

http://vglybokaye.promedia.by

Выдаецца са снежня 1994 года | № 8(151) 20 - 26 лютага 2003 года | Кошт 300 руб.

## Няма дырэктара на камбінаце

**Па Глыбокім ходзяць чуткі, што знялі з працы дырэктара малочна-кансервавага камбіната. А што на самой справе?**

■ **Уласная інфармацыя**

Нашаму карэспандэнту ў аддзеле кадраў МКК далі наступнае тлумачэнне:

Сапраўды, Глафіра Ермаковіч звольнілася з пасады дырэктара. Фармуліроўка звальнення – растаргненне кантракту. Цяпер абавязкі дырэктара адпаведна штатнаму раскладу выконвае галоўны інжынер прадпрыемства Уладзімір Дук.







НАДВОР'Е

Агляд складзены па дадзеных 18/02/2003 0:00

| | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Дні тыдня | чц | пт | сб | нд | пн | ат | ср | чц |
| Тэмпература: з 14 гадзін | -1 | -1 | -2 | -1 | -1 | -2 | -1 | 0 |
| з 2 гадзін | -1 | -1 | -4 | -3 | -2 | -3 | -2 | -1 |
| Ціск, мм рт.сл. | 760 | 764 | 763 | 760 | 758 | 755 | 755 | 753 |
| Накірунак ветру | Пд-З | Зах | Зах | Зах | Пдн | Пдн | Пдн | Пдн |
| Хуткасць ветру, м/с | 1 | 2 | 4 | 3 | 4 | 4 | 4 | 3 |

© Gismeteo.Ru Заўвага: прагноз надвор`я ў нашым рэгіёне пададзены ў прывязцы да г. Полацка

Са святам!

## Са святам абаронцаў Айчыны!





■ **Гутарылі А.Касцень і З.Лупач**

23 лютага ў Рэспубліцы Беларусь адзначаецца Дзень абаронцаў Айчыны. Гэта свята засталося нам у спадчыну ад савецкіх часоў, тады яно называлася Днём Савецкай Арміі і Ваенна-марскога флоту. Па рознаму можна ставіцца да гэтай даты, але для большасці нашага насельніцтва гэта дата не абыякавая. Большасць мужчынскага насельніцтва служыла ў арміі яшчэ ў савецкія часы, і хаця Савецкага Саюза ўжо больш як 10 гадоў не існуе на палітычнай карце свету,на два гады свайго маладога жыцця проста так нельга забыцца. Па традыцыі, 23 лютага адзначаецца як свята ўсіх мужчын, якія служаць або раней служылі ў войску, а таксама тых, хто ў будучым збіраецца насіць пагоны.

Рэдакцыя нашай газеты звярнулася да Глыбоцкага ваенкома з прапановай павіншаваць абаронцаў Айчыны (ранейшых, будучых і цяперашніх) са святам. На жаль, нашым карэспандэнтам не ўдалося сустрэцца з ваенкомам, ён быў на паседжанні райвыканкама, таму віншавальныя словы сказаў маёр Завадскі Ігар Іосіфавіч, начальнік аддзела тэрытарыяльнай абароны:

–Хачу павіншаваць са святам усіх ваеннаслужачых, а таксама членаў іх сем'яў, яшчэ тых, хто раней служыў ва ўзброеных сілах і тых, хто яшчэ збіраецца служыць. Жадаю ім усяго найлепшага, поспехаў у службе, у працы, здароўя і дабрабыту ў сем'ях.

ІНТЭРВ'Ю

# Мікалай Мацiеўскі: "Я не жадаю вялікай крыві..."

■ Гутарыў Алесь Касцень

**Сваю размову са спадаром Мікалаем Мікалаевічам Мацiеўскім я пачаў з прамога і канкрэтнага пытання, якое, напэўна, хвалюе многіх жыхароў Глыбокага – што з будаўніцтвам гарадскога стадыёна, чаму яно "замарожана". Адказ быў канкрэтны і вычарпальны:**

- Сапраўды стадыён не адпавядаў патрабаванням нашага горада. Тым больш, што існуе прафесійная каманда, якой ён патрэбен. Быў зроблены адпаведны праект, на паперы ідэальны. Выдаткавалі пачатковыя сродкі. Але ў працэсе работы выявілася, што на тэрыторыі стадыёна ёсць пахаванні нямецкіх салдат. Шмат іх было, каля тысячы.. Не па хрысціянску – будаваць нешта на людскіх касцях. Былі запрошаны прадстаўнікі нямецкага боку. Пачаліся перамовы. Уявіце сітуацыю – сродкаў не хапае нават на будаўніцтва стадыёна, сродкі ішлі з рэспубліканскага бюджэта. У рэшце рэшт было вырашана, што менавіта нямецкі бок, у іх ёсць адпаведныя арганізацыі, фінансуе перазахаванне.

Але адначасова паўстала і пытанне: а што вы пакінеце на глыбоцкай зямлі? Перазахаванне адбудзецца на гарадскіх могілках. Дык давайце зробім іх расшырэнне і добраўпарадкаванне, а разам з тым і добраўпарадкаванне парка. Нямецкі бок выдзеліў на гэту справу каля 200 тысяч марак. Адразу скажу, што толькі адна трэць гэтых грошай пайшла на пайшлі на карысць глыбачан. Добра гэта ці дрэнна? Я лічу, што добра, бо пры нашых фінансавых стасунках мы і сёння, як бачым, не маем стадыёна.

**"г. Глыбокае, завулак Школьны, д 10, кв. 1. Мацiеўскаму М.М. Паведамляем, што крымінальная справа №02023280015, узбуджаная 1 сакавіка 2002 года ў адносінах Мацiеўскага М.М па ч. 3 арт. 424 УК РБ, спынена 3 снеж-ня 2002 г. па п.2 ч.1 УПК Рэспублікі Беларусь у сувязі з адсутнасцю ў дзеянні саставу злачынства... Старшы следчы па важнейшых справах пракуратуры вобласці, саветнік юстыцыі І.І.Панцеляймон." Няма каментарыяў.**

нямецкія жалобныя патрэбы. Астатнія грошы

**- Ёсць яшчэ пытанне з домікам ля стадыёна.**

- Ёсць пытанне. Дарэчы, нямецкі бок, які фінансаваў усе гэтыя мерапрыемствы, улічваў кампенсацыю за гэты домік. Яна і была выплачана. Далейшыя дзеянні гаспадара не падкантрольныя. Ён захацеў яго захаваць – праблема. Але я той дакумент аб кампенсацыі падпісаў семнаццатым. Так, ёсць мой подпіс. Але ж гэта семнаццаты попіс. І рашэнне ў рэшце рэшт прымаў райвыканкам. А між тым у тых абвінавачваннях, якія мне прад'яўляліся, гэта было ці не галоўным.

**- А ўвогуле, на ваш погляд, адкуль узнікла сама справа? Нішто не бывае ніадкуль. Быў нейкі штуршок, нейкая прычына?**

**Працоўная біяграфія Мікалая Мікалаевіча Мацiеўскага адназначная. Пасля вучобы і службы ў арміі – майстар, прараб, старшы прараб, старшыня будаўнічай арганізацыі, потым намеснік, першы намеснік старшыні райвыканкама, Дырэктар Глыбоцкага прадстаўніцтва Віцебскай гандлёвай палаты. Каментарыяў няма.**



**Мікалай Мікалаевіч Мацiеўскі ў сваім цяперашнім кабінеце. Як бачыце, мадэрнісцкае мастацтва яму зусім не абыякавае. Здымак Зміцера Лупача.**

**" Я не жадаю вялікай крыві. Але тыя людзі, якія спрычыніліся ўзнікненню маёй "справы", павінны панесці пэўную адказнасць. Я буду падаваць зыскі ў суд на гэтых людзей. А грошы, якія суд ім, маг-чыма, прысудзіць за маральны ўрон, панесены мной, будуць пералічаны на рахункі бедных, той жа прытулак для састарэлых." Няма каментарыяў.**

(На гэта пытанне Мікалай Мікалаевіч усміхнуўся і працягнуў мне старонку адной з газет. Сутнасць артыкула была адназначная. Кватэры ў Глыбокім трэба будаваць, але некаторыя кіраўнікі самых "моцных" прадпрыемстаў ад гэтага адмаўляюцца. А намеснік старшыні райвыканкама прымяняе нават уладу, каб будаўніцтва вялося. Каментарыяў не можа быць. Жыллё – адна з самых галоўных праблем, якія сёння існуюць у нашых людзей.

**- Ну а размовы пра "імперыю" Мацiеўскага. Што тут ад праўды?**

**На сваё вочы бачыў дом, дзе жыве шаноўны Мікалай Мікалаевіч. Нічога асаблівага, у Глыбокім і бліжэйшым да яго наваколлі ёсць шмат дамоў значна лепшага кшталту. Праўда, каваная агароджа наводзіць на нейкія думкі аб кошце яе выканання, але Мікалай Мікалаевіч прадаставіў нам усе дакументы аб аплаце ўсіх работ па яе выкананні.**

- Адкажу вам адным прыкладам. У свой час я па сваёй пасадзе вельмі хадайнічаў аб адкрыцці летняга кафэ ў Глыбокім. Было і месца прыдатнае. Звярталіся да прадпрымальных людзей – вось вам праца. Нават праз раённую газету звярталіся. Ды шмат якія магчымасці страчаны. Не зусім, я гэта бачу.

**- Я не глыбачанін, таму мне цяжка разабрацца ў сітуацыі. Але ёсць такія думкі і чуткі, што Мацiеўскі ў кожным здадзеным доме меў кватэру на падстаўную асобу?**

- Смешнае пытанне. Хай знойдзецца хоць адзін чалавек, які прыйдзе да мяне і скажа – ты даў мне "падстаўную" кватэру. Я яму кватэру з усіх сваіх сродкаў куплю. Але справа ў тым, што гэта людзі "другога плану". Яны выконвалі загады тых, хто сёння прыходзіць да мяне і набіваецца ў дружбу. Не прымаю я гэту дружбу і вельмі многае помню.

**- Мікалай Мікалаевіч , я ведаю, што вы балатуецеся кандыдатам у дэпутаты раённага Савета дэпутатаў.**

-Так, балатуюся. І спадзяюся на перамогу. А як дэпутат раённага Савета многае змагу зрабіць для паляпшэння жыцця жыхароў сваёй выбарчай акругі і ўсёй Глыбоччыны. Са сваёй дасведчанасцю, прафесіяналізмам гэта мне будзе не цяжка. У рэшце рэшт прафесіяналы павінны рабіць справу. У тым ліку і ў прадстаўнічых органах.

# РЭГІЁН

## Ёсць толькі імгненне

**У сваім доме ў Паставах днём 9 лютага на 65-ым годзе жыцця адышоў у лепшы свет старшыня райселгасхіміі Бернард Сіповіч. Пры ім за 20 год кіраўніцтва калектыў быў адным з самых эканамічна моцных у рэгіёне.**

Сумленным прафесіяналам перажываць сённяшні занепад не да спадобы, што часткова і тлумачыць раптоўны і заўчасны зыход з жыцця вопытнага ўпраўленца. Зрэшты, сённяшняя рэчаіснасць і "націскны" стыль кіравання многіх прыводзіць да заўчаснай канчыны. Толькі на Пастаўшчыне ў апошні час у росквіце сіл зышлі з жыцця, зусім мала адпачыўшы на пенсіі і нават не дажыўшы да яе, намеснікі старшыні райвыканкама В. Хацяновіч, М. Кляпец, А. Кавальскі, старшыня райсавета дэпутатаў Э. Ляшковіч, загадчык РАНА М. Кішко, загадчык аддзела райвыканкама В. Пятухоўскі, дырэктар межрайгаза Э. Місуна і іншыя кіраўнікі. На любой пасадзе цяпер пры пастаянных стрэсах і нярвовых перагрузках небяспечна жыць і працаваць.

**Даўно ўжо ў сценах Пастаўскага аддзела ЗАГСа не было такой хвалююча-радаснай атмасферы, калі нядаўна свой шлюб зарэгістравалі паўторна Часлава і Рыгор Маслоўскія.**

## Маладым навука

Паўстагоддзя таму выпадкова яны пазнаёміліся. Пакахалі адзін аднаго і хутка пажаніліся ў 1953 годзе. Для "залатых" маладажонаў урачыстасць стала сюрпрызам, які для іх падрыхтавалі прыехаўшыя дадому дачка-настаўніца з Ніжняга Ноўгарада і сын-палкоўнік, прафесар Расійскай акадэміі вайсковых навук з унукамі. Зноў, як і 50 год таму, для маладых загучаў вальс, іх цёпла павіншавалі родныя і блізкія, калектывы "Ваенсервіса" і райаддзела Міністэрства надзвычайных сітуацый, дзе Часлава Пятроўна і Рыгор Міхайлавіч доўга працавалі да выхаду на пенсію. У апошнія гады ім жылося нясоладка, прыходзілася шмат працаваць, але жыццёвыя цяжкасці толькі гартавалі гэтую дружную сям'ю. Вось толькі падобных рэгістрацый "залатых" вяселляў у горадзе цяпер зусім мала. Паджылым усё цяжэй дажыць да такой даты, а на зарэгістраваных у мінулым годзе 205 вяселляў прыйшлося 126 разводаў.

## Прыносіць плён дрэва жыцця

**Да сённяшняга часу ўдзячны старажылы Малых Алашак і іншых вёсак Шаркоўшчынскага раёна земляку, вядомаму садаводу Івану Сікору за заступніцтва. Узімку 1943 года навуковец-селекцыянер не спалохаўся ўратаваць вёскі ад спалення.**

Яго аўтарытэт быў настолькі вялікі, што гітлераўцы дазволілі ў тым жа годзе закласці вялікі сад, які пладаносіць і ў XXI стагоддзі, хаця хутка 40 год, як гэтага цудоўнага чалавека няма на зямлі. Выведзены ім гібрыд № 1377 стаў гатункам яблык "Памяць Сікоры", а спецыялісты лічаць яго плодам стагоддзя. Чацвёрты год у гэтым месцы дзейнічае мемарыяльны дом-музей, у штаце якога працуе і аграном-садавод. За 2002 год яго наведалі 88 груп экскурсій, штогод улетку адбываецца народнае гулянне "Спас усяму час". Да ўжо сабраных 1272 экспанатаў музея за год дадалося новых 64 дакументы аб жыцці і дзейнасці Сікоры. З саджанцаў музейнага пітомніка мясцовы калгас мае намер закласці новы сад з 2000 пладовых дрэў.



**Нават падумаць раней не магла пенсіянерка з Браслава Феліцыя Дудкевіч, што яе вышыванкі і вырабы з паперы ў ліку іншых работ народных майстроў Віцебшчыны упрыгожаць 14 лютага выставу-кірмаш "Прыдзвінскія святкі" ў сталічным Палацы Рэспублікі.**

## Чароўнасць карункаў

Усе сакрэты вышыўкі, вязання кручком і мастацкага ткацтва падуладныя ўмелым рукам гэтай майстрыцы. У маладосці адразу пасля вайны ўсяго не хапала, але хацелася дзяўчатам прыгажосці і святла ў іх хатах, і навучылася яна рабіць фіранкі, упрыгожанні на абразы і па дому. У сталым узросце стала Феліцыя Юльянаўна членам клуба народных майстроў "Ля возера" пры Браслаўскім музеі традыцыйнай культуры. Аб яе таленце выпадкова даведалася кіраўнік клуба Тамара Ундруль, а цяпер работы Дудкевіч увайшлі ў каталог лепшых па вышыўцы Віцебшчыны і былі прадстаўлены на прайшоўшых Днях культуры вобласці ў Мінску. Але яшчэ больш радуе масцярыцу, што ў яе застануцца паслядоўнікі творчасці, прынамсі ў клубе займаюцца 60 юных дараванняў.

## На дарогах - без перамен

**Многія вадзіцелі ўжо ведаюць, што Дзяржаўтаінспекцыя штомесяц напярэдадні выхадных праводзіць узмоцненыя мерапрыемствы па прафілактыцы парушэнняў на дарогах. Але толькі ў Глыбоцкім раёне зафіксавана 36 парушэнняў правілаў дарожнага руху.**



Нягледзячы на кепскія варункі надвор'я, у 19 выпадках не выконваўся хуткасны рэжым, 8 разоў парушалі правілы пешаходы, 3 вадзіцеляў селі за руль у нецвярозым стане. За мінулы год у такім стане было на дарогах раёна затрымана 510 падвыпіўшых вадзіцеляў. Яшчэ больш аўтааматараў любяць ліхачыць на дарогах (за год такіх выпадкаў набралося 5744), асабліва на магістралях, якія вядуць у накірунку да літоўскай і латвійскай межаў. На такіх трасах і адбылося 9 найбольш жахлівых аварый, а трагедыя 2 кастрычніка ўскалыхнула ўсю краіну. Тады непадалёку ад горада сутыкнуліся дзве іншамаркі, зажыва згарэла чацвёра чалавек, уладальнік другой машыны загінуў на месцы. На шчасце, у студзені ахвяраў на дарогах не было, не ўлічваючы трох раненняў, затое за язду ў п'яным стане затрымана 35 вадзіцеляў, а 727 - за перавышэнне хуткасці.

крымінал

## У чаканні прысуду

**Чацвёрты месяц у судзе Пастаўскага раёна працягваюцца слуханні па разгляду крымінальнай справы генеральнага дырэктара Віцебскага ВЛГА Аляксандра Казлова. Кіраўніка лясной галіны абвінавачваюць у крадзяжах у асабліва буйных памерах шляхам злоўжывання службовым становішчам і службовым падлогу (артыкул 210 ч. 4 і 427 КК РБ).**

З-за неявак шэрагу сведак, неабходнасці правядзення дадатковых экспертных дзеянняў па справе і хваробе самога падсуднага працэс некалькі разоў прыпыняўся. Па істотнасці прад'яўленых абвінавачванняў, як і раней, А. Казлоў вінаватым сябе не прызнае. З 18 лютага па сканчэнні перапынку пачынаюцца заключныя спрэчкі бакоў, а прысуд, магчыма, будзе абвешчаны ў канцы месяца альбо ў сакавіку. Калі віна А. Казлова ў судзе знойдзе пацверджанне, то яму пагражае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 7 да 15 гадоў.

**Падборка рэгіянальных навін падрыхтавана Станіславам Раманчуком.**

адукацыя

## Равеснікам заканчэння афганскай вайны

**Каля месяца ішла падрыхтоўка да вечара памяці "Афганскі дзённік" у Глыбоцкай СШ№2. Па задуме ўдзел у ім павінны былі прыняць вучні 6-7 класаў гэтай школы. Але акрамя вечара 15 лютага была праведзена цэлая акцыя дзеля ўшанавання памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў.**

■ Ул. інфармацыя



Разлічваць на тое, што 13-14 гадовыя падлеткі прыйдуць на сустрэчу і будуць ведаць усе акалічнасці 10-гадовай афганскай вайны, было не варта. Яны якраз нарадзіліся недалёка каля даты вываду савецкіх войск з Афганістана. Таму было вырашана, што настаўнікі гісторыі на сваіх уроках папярэдне раскажуць аб уводзе савецкіх войскаў на тэрыторыю Афганістана і мэтах, якія выконваліся ў далёкай краіне. Найбольш ініцыятыўныя ўзяліся за выданне рукапіснай кнігі памяці "Афганскі дзённік", збіраючы матэрыял аб хлопцах, нашых земляках, якія загінулі на афганскай зямлі, фотаздымкі, вершы, іншую інфармацыю. Вучаніца 8"Б" класа Мальчык Віка прысвяціла воінам-афганцам уласны верш. На старонках дзённіка размешчана інтэрв'ю з удзельнікам вайны ў Афганістане Мікалаем Герасімавічам Брылёнкам.

Напярэдадні вучні 4-5 класаў па ўласнай ініцыятыве ўсклалі кветкі да помніка воінаў-інтэрнацыяналістаў у парку Перамогі. Сямікласнік Саша Славецкі запісаў на дыктафон гутарку з воінам-інтэрнацыяналістам Валерыям Міхайлавічам Шабаном, якая потым прагучала на школьным мерапрыемстве.

А вечар атрымаўся сімвалічны, дапамог яго ўдзельнікам зразумець, што любая вайна, нават калі яе мэты схаваныя пад самым высокім пафасам, нясе людзям смерць і няшчасце.

## Раман Тарасевіч: «Грошы будуць!»

■ Алесь Касцень

**У № 49 за снежань ужо мінулага года "Вольнае Глыбокае" пісала пра праблему настаўнікаў Глыбоцкага раёна. Ім не выплочвалася дапамога на набыццё метадычнай літаратуры са студзеня 2002 года. Тады загадчык раённага аддзела адукацыі Раман Іосіфавіч Тарасевіч адказаў дакладна:**

- Сапраўды, грошай на метадычную літаратуру мы пакуль што выплаціць не можам. Справа ў тым, што Глыбоцкі раён з'яўляецца маладатацыйным у вобласці, мы шукаем сродкі, нават бяром крэдыты на выплату заработнай платы настаўнікам. Што ж да кампенсацыі сродкаў на набыццё метадычнай літаратуры, то грошы настаўнікам раёна будуць выплачаны. Магчыма, у канцы гэтага года. А, магчыма, ужо ў наступным годзе. Такія абставіны."

На двары люты 2003 года. Заканчваецца зіма. А настаўнікі яшчэ не маюць гэтых самых грошай. Рэдакцыя зноў звярнулася да паважанага Рамана Іосіфавіча Тарасевіча.

І ўжо ў другі раз ён запэўніў чытачоў газеты, а найперш настаўнікаў школ раёна ў тым, што грошы абавязкова будуць выплачаны. Але з вырашэннем гэтага пытання раённы аддзел адукацыі мае шэраг праблем. Сказана адназначна, што выплаты пачнуцца.

Змяшчаючы гэты здымак Рамана Іосіфавіча побач са стосам газет, мы ні ў якім разе не хочам яго пакрыўдзіць, мы проста напамінаем, што звароты настаўнікаў у газету "Вольнае Глыбокае" сталі вельмі шматлікімі.

І ў рэшце рэшт - давайце заплоцім настаўнікам. Няпростая ў іх праца і не такія вялікія заробкі. І наш Прэзідэнт гэтага патрабуе.



МОЛАДЗЬ

## Новый альбом группы Metallica будет агрессивным

Барабанщик группы Metallica Ларс Ульрих приоткрыл тайную завесу над новым альбомом «St Anger». По его словам, пластинка будет достаточно «агрессивной». Чего стоит одно название альбома - «Святой гнев».



По словам Ульриха, более полутора лет группа не могла никак сосредоточиться и начать записывать. Однако несколько месяцев назад коллективу удалось найти свой стиль - тяжелый и энергичный.

«Тем, кому нравится такой стиль, не разочаруются в нас», - сказал Ульрих.

Альбом должен выйти в июне.

## Rolling Stones собираются в Китай

Легендарная рок-группа The Rolling Stones, которой в прошлом году исполнилось 40 лет, в апреле отправится на гастроли в Китай. Это будет первое турне коллектива в самой населенной в мире стране.

По сообщениям журнала NME, «роллинги» дадут 2 концерта - в Шанхае и Пекине. Организаторы выступлений считают, что никаких проблем с визами возникнуть не должно.

Ранее британский коллектив уже пытался добиться разрешения на въезд в эту страну, но всякий раз получал отказ. The Rolling Stones - одна из немногих западных групп, которой позволили выступить в Китае.

Часть вырученных от концертов средств будет направлена в китайские благотворительные учреждения.

Кроме Китая, группа выступит также в Индии.

інтэрв'ю

## Хіп-хоп – гэта стыль майго жыцця

**Глыбокае, як і любы іншы горад, мае сваю моладзевую культуру. Ствараюцца гурты, час ад часу запісваюцца песні. "Вольнае Глыбокае" хоча вас пазнаёміць з новым глыбоцкім MC Go.S.H., у жыцці вядомым, як Ігар Частабаеў. Ён запісаў песню "Разлука", якая ўжо з'явілася ў ратацыі на мінскіх радыёстанцыях.**

■ **размаўляў Андрэй Храпавіцкі**

**В.Г.:** *Спачатку распавядзі пра сваю песню.*

**Go.S.H.:** Гэта мая першая песня. Тэкст я напісаў ужо даўно – дзесьці з год таму, дзякуючы RomK, з GeeEmCee, выйшаў на рэкард лэйбл у Мінску і запісаўся RomK, займаўся звядзеннем, ён жа напісаў музыку. Мае тэмы ў асноўным не глабальнага, а лакальнага характару. Па-першае, гэта "Разлука", па-другое, хачу запісаць "Сон" і "Вайну".

**В.Г.:** *Ты ўжо выступаў са сваімі песнямі?*

**Go.S.H.:** Не, на жаль, выступіць са сваім матэрыялам мне пакуль яшчэ не давялося. Але ў планах ёсць.

**В.Г.:** *Ты яшчэ займаешся танцамі (брэйкдансам). Што табе бліжэй – танцы ці спевы (эмсіінг)?*

**Go.S.H.:** Я спрабую сумяшчаць. Танцы для аднаго, эмсіінг для другога. Розныя фестывалі праводзяцца. Адныя людзьмі ўспрымаецца лепей брэйк, другімі рэп. Але ўсё гэта – частка хіп-хоп культуры.

**В.Г.:** А што скажаш пра хіп-хопавую тусоўку ў Глыбокім? Якая яна? Ці мае яна будучыню?

**Go.S.H.:** У Глыбокім гэтым летам была ўвогуле класная тусоўка. Потым практычна ўся наша каманда раз'ехалася. Зараз засталося чалавек 15 нармальных хопераў. Я, Слон, астанкі нашай каманды. Я думаю, што светлай будучыні ў глыбоцкага хіп-хопа не прадбачыцца. Ніхто не імкнецца да гэтага. Усе нейк зажаліся. Каб дабіцца нечага, трэба кудысьці ехаць, каб даць пра сябе знаць.

**В.Г.:** *Што для цябе хіп-хоп? Чаму ты прыйшоў менавіта да гэтага стыля?*

**Go.S.H.:** Усё пачалося з таго, што мой брат прывучыў да "Prodigy". Потым пабачыў, як хоперы танцуюць, спадабалася. Пачуў рэп – "Дэльфіна", Эмінэма. Вершы пішу ад шасці гадоў, таму песні мне было пісаць ужо лягчэй. Хіп-хоп стаў маім спосабам самавыражэння, стылем майго жыцця. Спрабую набываць аранжавыя рэчы, каб было ярка і неардзінарна.

**В.Г.:** *Як ты лічыш, ці можна ў Беларусі на хіп-хопе зарабляць, і адпаведна, ці збіраешся ты звязваць сваю будучыню з музыкай.*

**Go.S.H.:** У Беларусі, я лічу, гэта фактычна немагчыма. Хіба што на чале нашых лэйблаў будуць стаяць сапраўды прасунутыя людзі.

**В.Г.:** *Якія твае любімыя групы і выканаўцы?*

**Go.S.H.:** Па-першае, гэта "Дэльфін" і Эмінэм. Потым "Нестандартный вариант", "GeeEmCee" і "Городская тоска". Ну і, канечне, "Каста".

**В.Г.:** *Ну, і нарэшце, якія ў цябе планы на будучыню?*

**Go.S.H.:** Хачу звязаць сваё жыццё з хіп-хопам: і танцаваць, і маляваць, і памагчымасці рэп чытаць. Яшчэ хачу быць акцёрам тэатра і кіно. У Галівуд паехаць здымацца. Збіраюся паступаць на тэатральны факультэт.

**В.Г.:** *Дзякуй за інтэрв'ю.*

музыка

# N.R.M.: «Мы паедзем па краіне»

**"Таварышы, я сабрала вас зьдзесь, увесь калекціў нашага Дома культуры, штобы саабшчыць прэнепрыятнейшае ізвесьціе: к нам едзе NRM..."**

■ **Людміла Асіпенка**

Дачакаліся-такі: пад канец мінулага года ціха і нават непрыкметна самы раскручаны гурт на Беларусі выдаў новы альбом. Так, цяжка, вельмі цяжка было NRM-аўцам пасля "Трох чарапах" выдаць нешта выкшталцонае і больш моцнае. Але справа зроблена, і "Дом Культуры" ляжыць на вітрынах музычных крамаў, чакаючы прагных фэнаў, якія, на дзіва, не спяшаюцца набываць яго. Прычына відавочная: уражвае цана – ад 8.500 да 9.500. Але, на думку NRMшчыкаў, дыск варты таго;акрамя песень, на альбоме змешчана п'еса аўтарства Ганны Вольскай і 20-ціхвілінны дакументальны фільм, складзены з замалёвак тура па Беларусі. На прэс-канферэнцыі, што адбылася напрыканцы студзеня, Лявон супакоіў прыхільнікаў іх творчасці, паведаміўшы, што выйдзе і так званая "версія для бедных" – без п'есы і фільма. 20-ціхвіліннага роліка я яшчэ не бачыла, але пазбаўляць альбом п'есы – неабдуманая глупства, бо яна – менавіта тая неабходная частка, якая надае "Дому культуры" каларыт і непаўторную выразнасць.

Дзямі наш карэспандэнт сустрэўся з бубначом NRM Алезісам Дземідовічам, і ў нас адбылася грунтоўная размова, якую зараз і прапаную.

**- "Дом культуры" атрымаўся на 100% NRMаўскім: такі ж вострасацыяльны, бадзёры, толькі больш лірычны, у адрозненне ад папярэдніх альбомаў. А як вы самі ацэньваеце сваю працу?**

- Ацэньваем на 5 балаў па пяцібальнай сістэме. Вядома, вельмі цяжка было нешта выдаць пасля "Трох чарапах", нам спатрэбіліся амаль 2 гады. І хаця пакуль рана падводзіць нейкія вынікі, увогуле, мы задаволены зробленым.

**- Якія песні, на ваш погляд, аказаліся найбольш удалымі?**

- Лічу, што людзям павінны спадабацца такія жартоўна-бытавыя песенькі як "Ura? Jolki-palki", "Heta usio", а яшчэ "Liohkija-liohkija" і "Belaruskija darohi". (Дарэчы, мякка кажучы, услед за гітарыстам Пітам Паўлавым NRM у апошняй песні працытаваў "Nirvana". Калі ж праўду-матку ў вочы – садралі музыку з "Come as you are" Курта Кабейна – аўт.)

**- Алезіс, а ці можна лічыць "Дом культуры" апошнім альбомам NRM? Справа ў тым, што даўно ходзяць чуткі аб развале гурта? І ці варта думаць, што ўдзел Піта ў "Garadzkija" і "Kriwi", а Лявона ў "Zet" і шырока разрэкламаванай "Крамбамбулі" – толькі падрыхтоўка глебы для расколу?**

- Згодзен, што чуткі на пустым месцы ўзнікаць не могуць. Але пра выйсце з NRM ніхто не казаў, нягледзячы на тое, што ў некаторых з нас сапраўды ёсць уласныя праекты. У той жа час не магу сказаць, што заўтра не здарыцца нешта, што пацягне за сабой разлад у калектыве.

**- З якімі гуртамі і музыкамі вам больш прыемна працаваць і выступаць на адной сцэне?**

- Тут варта ўзгадаць апошнюю каміпіляцыю – "PERSONAL DEPECHE", у якім мы актыўна прынялі ўдзел: выканалі "Твой Езус" (NRM) і "Марны" (Zet), а яшчэ мы з Пітам зрабілі пераклад песні "Без гучных словаў" для Kriwi. З Веранікай Кругловай мы працавалі разам над праектам Алеся Сумы "Я нарадзіўся тут" і ў "Народным альбоме", дзе былі яшчэ задзейнічаны Кася Камоцкая ("Новая неба") і Вячаслаў Корань з Ulis ("Народны альбом" пабіў усе рэкорды: вытрымка – 5 гадоў. У сувязі з гэтым 28 лютага будзе дадзены вялікі канцэрт, пра які можна будзе прачытаць на старонках "Вольнага Глыбокага" – аўт.).

**- А які з відаў мастацтва, акрамя, вядома, музыкі, Вам бліжэй?**

- Зразумела, выяўленчае мастацтва. Мы з Лявонам разам вучыліся, але зараз зусім не стае часу на творчасць: у мяне год назад нарадзілася дачка...

**- Ну вось, не ведала. Віншуем, Алезіс, хоць і з такім недарэчным спазненнем. Вернемся да "ДК". 24 студзеня ў "Містэрні гука" адбылася прэзентацыя альбома, вы раздавалі аўтографы. А калі ж NRM паедзе па Беларусі з канцэртамі?**



- Дзесьці праз месяц мы дадзём вялікі канцэрт у Мінску, а пасля паедзем па краіне. Дакладна ведаем, што завітаем у абласныя гарады, асабліва ў Гародню. Там у нас самыя актыўныя фанаты. Дарэчы, мы збіраемся зрабіць для ўсіх грамадзянаў Nезалежнае Rэспублікі Mроя пашпарты.

Наша размова з Алезісам доўжылася яшчэ дзесьці гадзіну, пасля чаго я пажадала NRM творчых узлётаў і больш канцэртаў.

А да мясцовых прыхільнікаў творчасці NRM з'явілася прапанова: трэба заявіць пра сябе, згуртавацца, інакш ніколі не пачуеш спалоханай інтанацыі ў голасе загадчыцы РДК аб прыездзе партызанаў беларускай сцэны.

**Кантакт са старшыней фанклуба NRM у Гародні: 230024, г. Гародня, а/с 2, Каляда Юліі.**

ГРАМАДСТВА

# Каханне з першага погляду

**Дзень святога Валянціна прэтэндуе ў нас у хуткім часе стаць цікавым усенародным святам. Калі суседзі сустракаюцца на вуліцы і віншуюць адзін аднаго са святам і абодва разумеюць з якім – гэта становіцца відавочным. Мясцовыя БРСМаўцы начале з Анатолем Гігола пры падтрымцы гарадскога цэнтра культуры таксама гэта каталіцкае свята адзначылі цікавым мерапрыемствам.**

■ Юрый Калбасіч, Таццяна Смоткіна

Адвечары ў той жа зале сабраліся новыя ўдзельнікі, і да арга-



«Каханне з першага погляду» – назва нізатараў свята далучыўся ўсё той жа сямейны



мерапрыемства празаічная, надта тэлевезійная. Тым не менш гульня выклікала цікавасць гледачоў і мела свой працяг.

Інтрыгай гульні аказаўся прыезд трох юнакоў з Докшыц, якія актыўна ўключыліся ў падзеі і, клуб "Востраў паразумення". У "Каханні з першага погляду-2" прымалі ўдзел больш старэйшыя юнакі і дзяўчаты. Яны ўсе з інтрыгай і гумарам адказвалі на пытанні, выдатна спявалі і яшчэ лепш выконвалі ін-



здавалася, што кожны з іх гатовы вярнуцца дадому з маладой нарачонай. Глыбачанкі паводзілі сябе больш сціпла. Але гульня патрабуе пераможцаў. Ідэальная пара – студэнтка Вольга Сіняўская і падатковы інспектар з Докшыц Андрэй Жаўнюк атрымалі падарункі і магчымасць здзейсніць падарожжа па памятных мясцінах горада.

сцэніроўку ўрыўка з "Notre Dame de Paris". Апчапынак у гледачоў атрымаўся даволі вясёлым. Былі створаны дзве пары закаханых з першага погляду: Жана і Вася, Маша і Андрэй. Ідэальнай парай сталі Андрэй і Маша, ім і дасталіся галоўныя прызы. А свята для ўсіх закончылася банкетам у рэстаране "Колас".

рэлігія

# Год Ружанца ў Глыбоцкай парафіі

**У 24-ю гадавіну свайго пантыфікату Папа Рымскі Ян-Павел II абвясціў Апостальскі ліст Rosarium Virginis Mariae ("Ружанец Панны Марыі"), у якім аб'явіў перыяд ад кастрычніка 2002 года да кастрычніка 2003 года Годам Ружанца.**

■ Гутарыў Зміцер Лупач

Паколькі ружа лічыцца сімвалам Маці Божай, то ружанец сімвалізуе сабой ружовы вяночак, на кожнай пацерцы якога адмаўляецца пэўная малітва. Да апошняга моманту ружанец складаўся з трох частак, у сваім Апостальскім лісце Папа Ян-Павел II увёў чацвёртую частку. Кожная частка складаецца з пяці таямніц, якія адлюстроўваюць розныя падзеі з жыцця Ісуса Хрыста. У кожнай таямніцы прачытваецца пэўная колькасць малітваў, пры чытанні якіх вернікі разважаюць аб гэтай падзеі. Такім чынам, ружанец – гэта малітва-разважанне, пры якой вернікі павінны не проста механічна паўтараць малітвы, але разам з Маці Божай асэнсаваць шлях нашага Збавіцеля. Калі ружанец складаўся з трох частак, першая з іх называлася Радаснаю (складалася з таямніц, якія адлюстроўвалі перыяд ад Дабравешчання да дзяцінства Ісуса Хрыста), другая частка называлася Балеснаю (складалася з таямніц, якія адлюстроўвалі пакутніцкую смерць на крыжы), трэцяя частка – Хвалебная (адлюстроўвала перыяд пасля ўваскрэшання Хрыста). Сваёй пастановай Ян-Павел II увёў частку, якая называецца Таямніца Святла, якая адлюстроўвае перыяд зямнога жыцця Хрыста, яго служэння людзям. Такім чынам, Папа запоўніў той прабел, які існаваў у ружанцы да апошняга часу.



Маці Божая Падхорная Глыбоцкая

Наш карэспандэнт сустрэўся з пробашчам касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім ксяндзом Кшыштафам і папрасіў яго расказаць, як праходзіць Год Ружанца ў Глыбокім.

Для адмаўлення ружанца ў парафіях арганізоўваюцца так званыя ружанцовыя колы. Раней кола складалася з 15 чалавек, цяпер яно складаецца з 20 удзельнікаў (па колькасці таямніц у ружанцы). У Глыбоцкай парафіі такіх колаў было дзевяць (яны складаліся з вернікаў старэйшага і сярэдняга пакаленняў), нядаўна было арганізавана дзесятае кола, якое складаецца з моладзі. Гэта вельмі прыемная навіна, бо звычайна моладзь цяжка прымусіць маліцца. Ёй заўсёды не стае часу на малітву, трэба вучыцца, наведваць розныя гурткі, вывучаць замежныя мовы. Тым не менш, што вельмі прыемна, у Глыбокім 20 маладых людзей ахвотна згадзіліся арганізаваць ружанцовае кола, каб маліцца ў інтэнцыі не толькі ўсяго касцёла, але і канкрэтна сваёй парафіі. Напрыклад, у гэтым месяцы мы молімся аб святасці сям'і, каб у сем'ях не было праблем, звязаных з распадам сем'яў, п'янствам, праблем адносінаў бацькоў і дзяцей. Кожнае ружанцовае кола мае свайго апекуна (патрона). Моладзь сваім апекуном выбрала святога Пія, які жыў і працаваў у Італіі ў XX стагоддзі, памёр у 60-х гадах, і вызначаўся набожнасцю, святасцю, быў добрым спаведнікам, да яго з'язджаліся з усёй Італіі і з усяго свету. Ён валодаў дарам суцяшэння вернікаў у розных цяжкіх жыццёвых сітуацыях, мог прадказваць, меў дар білакацыі. Вось такога святога нашых часоў (а ўсе мы паходзім з XX стагоддзя) моладзь выбрала сабе ў апекуны.

**Пра навіны Глыбоцкай парафіі распавядае ксёндз-дэкан Кшыштаф Вітвіцкі**

Ружанцовыя колы збіраюцца ўсе разам у першую суботу месяца, бо кожная субота прысвечана Маці Божай, але першая субота мае асаблівае значэнне, калі мы аддаём пашану Пану Богу праз Маці Божую. У нашым касцёле знаходзіцца цудадзейны абраз Маці Божай Падхорнай Глыбоцкай, які нядаўна вярнуўся з рэстаўрацыі. У гонар Маці Божай кожную першую суботу мы праводзім працэсію вакол касцёла, каб выказаць тое, што мы разам з Марыяй не баімся вызнаваць нашу веру ў Бога. Многія абвінавачваюць хрысціян як католікаў, так і праваслаўных ва ўзвядзенні Маці Божай у ранг боства. Гэта няпраўда. Яна была першым святым, была чалавекам, гэта ніякае не боства, проста праз яе заступніцтва, праз яе святасць мы просім Бога пра нейкія ласкі. Трэба адзначыць, што мы молімся не да Божай Маці, а разам з ёй молім Бога аб той ці іншай ласцы. Таямніцы ружанца – гэта старонкі Евангелля ў скароце, якія адлюстроўваюць увесь шлях Ісуса Хрыста для з'яўлення людзей. У кожным ружанцовым коле ёсць свой, так бы мовіць, старэйшы, які сочыць, каб усе таямніцы своечасова адмаўляліся. У кожным наступным месяцы ён робіць абмен таямніцамі паміж удзельнікамі кола.

- Як вы ставіцеся да ўвядзення ў касцёле беларускай мовы?

- Ну, канечне, у Беларусі – на беларускай мове. Я лічу, што да чалавека трэба звяртацца на той мове, якую ён разумее. Але, каб Літургія загучала на прыгожай беларускай мове, патрэбен яшчэ нейкі час, бо патрэбна перакладці касцёльныя тэрміны, літаратуру, а гэта не так проста.

- Але ж і існуе некаторы супраціў з боку старэйшага пакалення, якое прывыкла маліцца па-польску?

- Так. Але нам патрэбна зразумець гэта пакаленне. На гэтых людзей няма чаго крыўдзіцца. Чалавек старэйшы больш кансерватыўны, мы таксама некалі будзем старымі і па-іншаму будзем успрымаць нейкія наваўвядзенні. Заслуга старэйшых людзей у тым, што яны змаглі данесці да нас саму веру, не далі ёй загінуць у тыя цяжкія для яе часы.

Напрыканцы ксёндз Кшыштаф пажадаў калектыву газеты творчых поспехаў, а ўсім нашым чытачам поспехаў у жыцці. Хай усім нам у гэтым дапаможа Бог.



АДПАЧЫНАК

■ тэкст і фота Таццяны Смоткінай

# "Хуткасць" – трэці этап гульні "Апошняя гераіня-1"



Гэты этап прадугледжваў спаборніцтвы па зімовых відах спорту. Пераможца павінна была атрымаць тытул "Лэдзі хуткасць", і атрымалі яго дзве ўдзельніцы: Матушава Даната і Міхмель Таццяна, яны падзялілі першае і другое месцы . А зараз усё па парадку.

Спачатку "апошнія гераіні" размінаціся ў спаборніцтвах па зімовых відах спорту за каманду сямейнага клуба сярод іншых каманд: ліцэя, сярэдняй школы №3 г.Глыбокага, дзіцячай групы.

І размінка прайшла даволі паспяхова: сямейны клуб у гэтых спаборніцтвах перамог.

Ну, а далей трэба было нашым канкурсанткам змагацца паміж сабой, і тут ужокожны за сябе. Напярэдзе – трэці этап гульні "Апошняя гераіня-1". Першым выпрабаваннем, якому падвергліся нашы канкурсанткі, былі лыжы. Менавіта на іх трэба было пераадолець пэўную адлегласць на хуткасць, пры гэтым праехаць праз невялікія "вароты". Цікава было назіраць за яздой дзяўчат, асабліва тых, хто ўжо подаўна не станавіўся на лыжню. Адной "гераіні" нават давялося ехаць седзячы на лыжах палову дыстанцыі, а другую палову пераадольваць пры дапамозе клапатлівых памагатых. Хто хутчэй, а хто і не вельмі хутка, але ўсе ўдзельніцы дабраліся да фінішу.

Наступнае выпрабаванне – спуск з гары на санках, таксама на хуткасць. Для гэтага трэба было канкурсанткам сабрацца і набрацца смеласці, што ўсім ім далося даволі лёгка.

А вось на наступнае выпрабаванне (спуск з вялікай гары на падручным сродку, у дадзеным выпадку цыраце) згадзілася б не кожная жанчына. Горка была вельмі вялікая і ўхабістая для гэтага конкурсу. Але ніводная ўдзельніца не адмовілася, сапраўды, "Апошнія гераіні".

Трэцяе месца ў спаборніцтвах "Хуткасць"заняла Іваноўская Таццяна.

## Выніковая табліца

| Прозвішча | лыжы | санкі | Падручныя сродкі | Балы і месца |
|---|---|---|---|---|
| Міхмель | 20. 58 | 7.50 | 10.45 | 7 |
| | II | II | III | I-II |
| Матушава | 30.67 | 8.15 | 9.18 | 7 |
| | III | III | I | I-II |
| Кірпічонак | 1.16.00 | 6.95 | 12.34 | 12 |
| | VI | I | V | IV |
| Саковіч | 41.52 | 10.09 | 15.35 | 15 |
| | V | IV | VI | VI |
| Беланожкіна | 31.18 | 13.27 | 10.47 | 14 |
| | IV | VI | IV | V |
| Іваноўская | 12.94 | 10.38 | 10.08 | 8 |
| | I | V | II | III |

**У першым радку насупраць кожнага прозвішча пад назвамі відаў спорту прыведзены час у секундах і долях секунд, у другім радку - месца, якое заняла ўдзельніца ў дадзеным відзе спорту.**

## Геройства дзелім на дваіх



Пераможцы этапа «Хуткасць». Злева направа Міхмель Таццяна, Матушава Даната.



















выражі і дашлі на а/с 2 альбо перадай нашаму распаўсюджвальніку

**ПРАГАЛАСУЙ**

**Пазнач сваё імя і прозвішча**

№

Выбірай лепшую ўдзельніцу

**Наступны этап адбудзецца 23 лютага ва ўрочышчы «Лаўрынаўка», каля Белага возера ў 11.00.**

ЖАНОЧАЯ СТАРОНКА

■ Старонку падрыхтавала Ганна Мартыноўская

# "КАПЯЛЮШЫК"

*Добрыя, пяшчотныя, мілыя, мужныя сяброўкі!*

*Зноў вітаю вас на Жаночай старонцы.*



За ча падрыхтоўкі чарговага нумару "Капялюшыка" я зразумела, што трэба расказаць пра вельмі сур'ёзную праблему, якая існуе побач. Праблема гэта- нашы жанчыны- прадпрымальніцы, іх лёсы, мары, вельмі цяжкая праца, здароўе...

Час паказаў нам, што мы маем на сённяшні дзень краіну, дзе працу жанчыны можна смела параўнаць з працай жывёлы. Па-руску гэта: "Работает, как лошадь". Здаецца, гучыць не вельмі страшна, а зрабіце пераклад на беларускую !?

На ўспамін прыходзіць такі факт. Аднойчы муж маёй знаёмай убачыў на ўскраіне Глыбокага, як жанчына несла мех бульбы на плячах.

Ён расказваў, плакаў слязьмі і даваўся дзіву, як гэта так, што такое дзіўоснае стварэнне, як жанчына, працуе, як трактар. Ведаеце, гэты мужчына па нацыянальнасці англічанін, таму і дзіву даваўся, бо ў Англіі, я добра ведаю, жанчын з мяхамі бульбы на плячах не сустрэнеш.

Напэўна, няма сэнсу гаварыць пра тое, як мы дакаціліся да такога жыцця, калі жанчына-маці павінна латаць свой дзюравы бюджэт, не мець нармальнай платы за працу. Маладыя дзяўчаты,нашы дзеці, у пошуках заробкаў "гібеюць" на рынках у спякоту і мароз.З тысячы прадпрымальнікаў, зарэгістраваных у раёне- большасць жанчын, многія маюць вышэйшую адукацыю, розныя спецыяльнасці, многа таленавітых...Але, на жаль, яны незатрабаваныя ў сваёй краіне.

Нікому не сакрэт, што падаткі, якія прыносіць прадпрымальніцтва казне ў Беларусі, займае пэўны працэнт у бюджэце краіны. Кожны прадпрымальнік у сярэднім дае бюджэту за месяц памер пенсіі ўмоўнага грамадзяніна. Таму дзяржава павінна адносіцца да гэтай катэгорыі працоўных з адпаведнай павагай і не ўскладаць ім на плечы цяжкасці, звязаныя з папаўненнем бюджэту.



На здымку маладыя жанчыны прадпрымальніцы Галіна Пашкевіч, Ганна Храпавіцкая, Жана Хахолка (злева направа)

Здымак Г. Мартыноўскай

**Паважаныя сяброўкі ! Напярэдадні мужчынскага свята і з мэтай разбавіць нашу жаночую кампанію адкрыем своеасаблівую «Дошку гонару»**

**«Мой татачка Малчанаў Юрый – самы лепшы мой сябар,памочнік і дарадчык. Ён вельмі сціплы, прыстойны чалавек. Жадаю яму здароўя і ажыццяўлення ўсіх ягоных мар»,-з цеплынёй і пяшчотай распявядала дачка Наталля аб сваім бацьку.**

**На здымку Малчанаў Юрый.**



Здымак Г.Мартыноўскай

■ Ганна Зінкевіч

## Трыпціх

1

Палыновы подых лета.
(Хоць бы кропелька дажджу!)
Абляцелі ўраз ранеты
На пажухлую траву.

Хоць бы кропелька дажджу!
Загарэлася балота.
На пажухлую траву
Аблятае пазалота.

Загарэлася балота.
Шэры дым усё спавіў.
Аблятае пазалота
З горкім дымам журавін.

2

Святло пралілося, святло,
Мільярдамі чыстых слязінак!
Цябе ўслаўляю, жыццё,
У росквіце плённых дажынак.
Мільярдамі чстых слязінак
Засыпаны поле і сад.
У росквіце плённых дажынак
Яснее жыцця далягляд.

Засыпаны поле і сад.
У сэрцы журынка і радасць.
Яснее жыцця далягляд,
Святлу вечна ліцца і падаць...

3

Будуць ціхае світанне,
Дзень азяблы і заспаны.
Космас нашага кахання
З самых лепшых слоў сатканы.

Дзень азяблы і заспаны.
Ліставей у садзе кружыць.
З самых лепшых слоў сатканы
Водар шчасця, водар ружы.

Ліставей у садзе кружыць
–
Зноў натхненне для паэтаў!
Водар шчасця, водар ружы,
Палыновы подых лета.

**Элегія**

Душа даўно ў чаканні снегападу.
Бялюткай, чыстай, маладой зімы.
Над Бацькаўшчынай вольныя вятры,
Незацугляныя свавольствам лістападу,
Ляцяць за шчасцем познія лісты,
Пакінуўшы планету восеньскага саду.
Жыццё бяжыць па вечнаму раскладу,
Па мудраму закону дабрыні.

***

Нейтральная паэзія,
У чым твая віна?
Ты, як лавіна снежная
Над бездańню жыцця.
Спакусная, падманная,
Як песня салаўя.
Нібы салодкай маннаю
Засыпана душа...

гумарэска

# Паслухай жанчыну і зрабі наадварот

■ Ганна Мартыноўская

Воздержись, отрок, ибо наказан будешь!
*Евангелие от Луки*

Вяселле было ў разгары. Васіль сядзеў за сталом паміж жонкай Нінай і сваяком. Твар ласніўся ад стравы, якой было мора: еш – не хачу. Рукі Васіля хадзілі хадуном туды-сюды, накладваючы ў талерку ежу пасля зручна выпітай чарговай чаркі. Усё б добра, ды жонка заўсёды сапсуе абедню. Штурхае пад бок і прыгаворвае:

- Калі ты ўжо наясіся? Людзі добрыя! Хто ж так есць? З табой, куды не пойдзеш, сораму не абярашся. Усе ўжо на цябе глядзяць, як на цуд, - са злосцю шаптала Ніна ў самае вуха мужу.

Чырвоны, злы Васіль, кінуўшы відэлец, перастаў есці, ды толькі соп у нос.

Ніна, бачачы непераліўкі, пачала супакойваць ненаедю:

- Калі ўсе разыйдуцца па хатах начаваць, я пакіну табе на кухні страву. Еш, хоць задушыся, а цяпер не ганьбі мяне. Ясі так, нібыта цябе ніхто не корміць.

Настрой ужо быў не той. Усё сапсавала вядзьмарка! А тут яшчэ спадарская котка, тоўстая, цяжарная, чаплялася менавіта да яго: рве кіпцюрамі, просіць, каб што-небудзь кінуў ёй пад стол.

Калі ўсе сцішыліся па кутках, разышліся хто куды, Ніна пацягнула Васіля за перабойку, штурхнула на ложак. Сама пайшла на кухню. За сцяной жанчыны збіралі посуд са сталоў і гаманілі. Праз некаторы час сцішыліся ўсе: трэба было паспаць перад новым застоллем.

Раптам Васіль пачуў, як Ніна штурхае і будзіць яго.

- Ідзі на кухню. Я пакінула на прыпечку табе шэсць клёцак з "душамі", ад'ешся, а то яшчэ памрэш чаго добрага.

... Прачнуўся Васіль ад гоману. Усе збіраліся з усіх бакоў апахмяліцца. Калі ўладкаваліся за сталом, увайшла гаспадыня з рэшатам у руках:



- А ў нас прыбаўленне ноччу адбылося. Котка акацілася на прыпечку ў рэшаце. Аж шэсць штук прынесла. Ды не ведаю, дзе падзеліся кацяняты? Некуды ўжо знясла, шэльма, - зрабіла выснову жанчына, паказваючы пустое рэшата.

Васілю стала блага. Ком падкаціўся да самай глоткі. Ён паварнуўся да Ніны. Тая, зразумеўшы, што здарылася, ухапілася і "паляцела" на кухню. Яна вярнулася з каструляй, у якой ляжала шэсць клёцак. Васіль ужо нічога не бачыў. Стралой кінуўся на двор. Праўда, ён чуў, як моцна рагатала яго жонка. Ні раней, ні пасля гэтага ён не бачыў яе такой вясёлай.

РОЗНАЕ

правы чалавека

# Прававы лікбез

*Да цябе будуць адносіцца так, як ты гэтага захочаш.*
*Народная прымаўка*

■ Ганна Мартыноўская

Гэтыя словы былі выказаныя калісьці вельмі разумным чалавекам. На мой погляд, так мог сказаць той, хто, па- першае, паважае сябе, па- другое, ведае, як трэба паводзіць сябе ў адносінах да другіх.

Уявіце сабе: ідзе планёрка, альбо сход, кіраўнік дазваляе сабе павышаць голас на падначаленых, пераходзіць на крык ці на абразу. Прадстаўнікі ўлады РБ усюды падкрэсліваюць, што наша краіна ідзе па прававому і дэмакратычнаму шляху. Адсюль вынікае: кожны чалавек па Канстытуцыі і Грамадзянскаму кодэксу РБ мае права падаць зыск на ўтрыманне кампенсацыі маральнай шкоды, калі грамадзяніну прычынена маральная шкода (фізічныя ці маральныя пакуты, арт.152). Грамадзянін мае права патрабаваць па суду абвяржэння сведчанняў, якія датычаць яго гонару і годнасці, калі распаўсюджвальнік такіх звестак не дакажа, што яны не адпавядаюць сапраўднасці (артыкул 153)

Практыка паказала, што на некаторых прадпрыемствах раёна, установах усталяваліся нездаровыя адносіны паміж кіраўнікамі і падначаленымі. Але ж ніякі праваабаронца ці нехта іншы не зможа выступаць у ролі "цапной сабакі", якая будзе абараняць свайго апанента кожную хвіліну, кожны дзень.

Кожны чалавек павінен уявіць сабе, што ён мае права на абарону гонару, годнасці і адказнай рэпутацыі, што ён мае права патрабаваць абвяржэння сведчанняў, якія датычаць яго гонару і годнасці ці працоўнай рэпутацыі.

Паважаючы сябе пакупнік, напрыклад, не стане купляць у прадаўца тавар, калі ён са злосцю кінуты на прылавак. Не трэба чакаць таксама ажыццяўлення сваіх мар, калі за вашу справу ўзяўся несумленны, нядобразычлівы кіраўнік, які царуе на крэсле з напамажанай грывай, з ільснючым тварам, а вы будзеце стаяць ля дзвярэй, як бедны сваяк, які прыйшоў у непатрэбны час.

Адна мая вельмі добрая знаёмая ўвайшла ў кабінет і, выходзячы, на пытанне здзіўленай сакратаркі сказала, што чалавек, які не прапануе сесці і не праяўляе цікавасці да наведвальніка, ніколі не зможа вырашыць пытанне, ці будзе вырашаць яго вельмі марудна, не ўкладаючы душу. Навошта марудзіць час і псаваць нервы. Можа лепш пачакаць?..

Так, напрыклад, адзін з кіраўнікоў пасля адказу сваёй падначаленай у сэксуальных дамаганнях пачаў яе кожны дзень абражаць і "паказваць" сваю ўладу, давёў замужнюю жанчыну, маці двух дзяцей, да часовага псіхалагічнага стрэсу. Яна звярнулася ў БХК г.Глыбокае. На жаль, жанчына не захацела падаць у суд, і ёй было прапанавана звольніцца з работы, як найлепшы варыянт, бо калі гаворка заходзіла аб кіраўніку, у жанчыны пачынаўся прыступ псіхалагічнага растройства.

Дырэктар адной вядомай гаспадаркі ў раёне прыдумаў арыгінальны спосаб утрымання "ўладных лейцаў" у руках: выдае затрыманую зарплату, так званую, толькі тады, калі калгаснік падпіша кантракт. Прычым, уяўляеце- чысты бланк. Тлумачу для тых, хто не ведае, што гэта такое. Кантракт (лац. contractus) – гэта пісьмовая дамова з узаемнымі абавязкамі для бакоў, якія дамаўляюцца.

Калі адзін з працаўнікоў папрасіў сакратару паказаць бланк такога кантракту, яна адмовіла, сказала, што яе звольняць з работы, бо строга-настрага кіраўнік забараніў рабіць штонебудзь без яго ведама. А можа неяк хоць трохі думаць, што падпісваць.

Чаму той, хто працуе іншы раз не ведае, у якасці каго ён прыняты на працу. Калі ў працоўнай кніжцы напісана, што вы ўзяты на работу ў якасці, напрыклад, тэхнічнага работніка рамонтнай майстэрні, то ні ў якім разе ніхто без вашага ведама не мае права пераводзіць вас, скажам, прыбіраць кантору. Калі ж вам не выдаюць на рукі працоўную кніжку, (што з'яўляецца нейкім цудам), пішыце афіцыйную заяву на імя кіраўніка ўстановы, дзе адбываецца беззаконне, рэгіструйце яго і чакайце, калі пакажуць вам ваш працоўны дакумант.

І яшчэ. Не забывайце аб тым, што кожны працаўнік па Канстытуцыі мае на вольны ад працы дзень, а не ўсялякі там метадычны ці яшчэ як названы кімсьці. Папулярна – гэта права працуючага на адпачынак. Калі ідзе пачасавая аплата працы, выхадныя дні вызначаюцца не ад прыхаці ці самадурства кіраўніка ці яго памочнікаў. Тут трэба ўлічваць усе фактары, і калі можна пайсці насустрач пажаданням падначаленага, трэба быць чалавечным і памятаць, што ніводная ўстанова ў раёне яшчэ не прыватызавана. А можа я памыляюся?

Яшчэ адно пытанне, якое трэба высветліць. Дзе ж мы так хутка пабудуем добрую цывілізаваную краіну, калі не ўзгадаем словы Уладзіміра Высоцкага: "Голосуйте, суйте в урны..."

Паэт меў на ўвазе той народ, які не абрамяняў сябе думкамі аб тым, што пры галасаванні трэба рабіць нейкі выбар, імкнуцца да лепшага жыцця... Камісіі на выбарчых участках выбраны для таго, каб людзі выбралі тых, каго яны сапраўды хочуць, пры гэтым, ні ў якім разе не адступаючы ад закона.

# Дык якое мы грамадства?

**Хто сёння непітушчы? Яшчэ трэба пашукаць. Хаця ёсць, сустракаюцца сярод нас тыя, хто проста адмоўна ставяцца да спіртных напояў. Ну вось адмаўляюцца – і ўсё тут. Між іншым, дзяржаўную палітыку не падтрымліваюць. Таму што, мяркуючы па колькасці, кошце, а тым больш якасці спіртных напояў, якія прапануе дзяржаўны гандаль, палітыка адназначная – піце!**

■ Тутэйшы

**Надпіс на этыкетцы: «Сумеснае прадпрыемства грамадства з абмежаванай адказнасцю...»**




І ўжо не толькі монстры лікёра-гарэлачнай вытворчасці ў Мінску, Брэсце, Віцебску, але і саматужныя практычна вытворчасці ў вёсках поўным ходам "цісНуць" гэтую самую вадкую прадукцыю, шырока прапануюць яе шматлікім пакупнікам.

Вось і ў вёсцы Малінаўшчына, аказваецца, дзейнічае "Малінаўшчызненскі спіртагарэлачны завод Крышталь II" Пачаў ён нядаўна выпускаць гарэлку "Сябрына". Нядрэнна аформлена этыкетка. Хлопец у нацыянальным строі грае на жалейцы. Дзяўчына, у нацыянальным строі таксама ж, трымае плецены кош, у якім ляжыць гэта самая запаветная бутэлечка. А на другім плане – народ. Таксама ў нацыянальных строях, з музычнымі інструментамі, ну і... Гуляем, браточкі!

Але вось што яшчэ напісана на гэтай этыкетцы, якую яе выканаўцы спрабавалі зрабіць у чыста беларускім стылі.

А гучыць надпіс так: "Сумеснае прыдпрыемства грамадства з абмежаванай адказнасцю". Ні менш, ні больш. Ну, памыліліся беларускі, замест "таварыства" напісалі "грамадства".

Так то яно, так. Але на бутэльцы гарэлкі. Мо, і сапраўды ўжо наша грамадства стала абмежавана адказным? Можа цягам часу ўвогуле ні за што не будзем адказваць. Ні за будучыню сваіх дзяцей, ні за сваю мову, ні за сваю радзіму, якую і сёння пішам ужо "Белоруссией"?

**Гэтаму фотаздымку больш за сорак гадоў. Бацька са знаёмым салдатам пазіраваў перад фотакамерай на фоне распаўсюджанага ў тыя часы агітацыйнага плаката. Выконваліся рашэнні чарговага і, зразумела ж, гістарычнага XXII з'езда КПСС, пасля якога калгасы і саўгасы майго роднага Пастаўскага раёна прынялі на сябе пэўныя абавязацельствы па атрыманні сельскагаспадарчай прадукцыі ў 1962 годзе. Час той асабіста памятаю слаба. Ды і што можа памятаць першакласнік?**

# Стары бацькоўскі фотаздымак

■ Алесь Касцень

А вось лічбы, якія на плакаце за спіной у бацькі і яго знаёмага зацікавілі.

1962-гі... Што ж гэта за час? Эра кіравання Мікіты Хрушчова ў самым разгары. Яго здымуць за "валюнтарызм" толькі ў 1964-м. А пакуль што ён на кані. Пакуль што на апошнім, XXII з'ездзе адзінай і кіруючай партыі ш чарговы раз развянчаў культ асобы Сталіна, яшчэ раз сцвердзіў свой культ.

У сталоўках з'явіўся дармавы хлеб – было такое непрацяглы час. Яшчэ напярэдадзе так званы карыбскі крызіс, калі вайна паміж СССР і ЗША магла развязацца праз некалькі хвілін.

Але цяпер калгаснае сялянства Пастаўскага раёна прымае на сябе павышаныя сацыялістычныя абавязацельствы на 1962 год.

У структуры пасяўных плошчаў кукурузе аддаецца 14 працэнтаў. Ну. любіў Хрушчоў кукурузу. А ўслед за ім палюбілі гэту культуру кіраўнікі нават самых паўночных абласцей былога СССР. І вырошчвалі! Са школьных гадоў памятаю, як нават на прышкольных участках мы поўзалі па градах з гэтай культурай. Яна патрэбна і сёння нашай жывёлагадоўлі, але як культура кармавая. Тады ж з усёй моцы стараліся вырошчваць яе на зерне.

А вось самага збожжа, пшаніцы, жыта, ячменя абавязваліся вяскоўцы атрымаць толькі па 11,5 цэнтнера з гектара. Бульбы – 110 цэнтнераў. Слабенькія ўраджаі планаваліся. У семідзесятыя гады, калі лепшай стала і механізацыя, і хімізацыя сельскай гаспадаркі, ураджаі выраслі амаль што ўтрая. А вось сёння нашы бедныя калгасы і саўгасы вярнуліся да лічбаў шасцідзесятых гадоў. Ды шмат да чаго мы ўжо вярнуліся менавіта ў мінулае.

Час так распарадзіўся.



кампетэнтны адказ

# Чаму даражэе глыбоцкі хлеб?

**Маладое пакаленне глыбачан ужо і не памятае тыя часы, калі самым танным прадуктам быў хлеб, яго вытворчасць датавалася дзяржавай. А сёння хлеб пакрысе, але няўхільна даражэе. Яго кошт некалі быў параўнальны з коштам праезду ў грамадскім транспарце. Дык ад чаго залежыць кошт хлеба? На гэта пытанне кампетэнтна адказвае дырэктар Глыбоцкага хлебазавода Анатоль Плюскоў.**

Па-першае растуць цэны на ўсе матэрыялы, без якіх не можа абысціся вытворчасць. А, значыць, як толькі вырастае, напрыклад, кошт паліва-змазачных матэрыялаў, мы павінны закладаць дадатковыя выдаткі ў кошт бохана.

У свой час, калі нас прымушалі выпускаць масавыя гатунку хлеба, мы вымушаныя былі страчваць на кожным бохане да ста рублёў.

Па-другое, ні аб якіх датацыях з боку дзяржавы размова не ідзе. Больш таго, мы вымушаныя, зразумела з якіх прычын, крэдытаваць калгасы пад вырошчванне зерня. Так, у мінулым годзе калгасам Браслаўскага і Пастаўскага раёнаў мы крэдытавалі 850 мільёнаў рублёў. Сёлета калгасам Глыбоцкага раёна– ужо 66 мільёнаў.

А што рабіць з гэтым зернем? Калі жыта яшчэ неяк перапрацоўваецца, то пшаніца мінулага ўраджаю ляжыць на Пастаўскім хлебапрыёмным прадпрыемстве і на Глыбоцкім камбікормавым заводзе. Мы яшчэ вымушаныя плаціць за гэта захоўванне. А перапрацаваць пшаніцу немагчыма. Зразумела, якая ў нашай беларускай пшаніцы клейкавіна.

**Ад рэдакцыі: Некалі, у савецкія часы вельмі папулярным быў лозунг: "Хлеб усяму галава". Яго і прамаўлялі, і спявалі, і вывешвалі на будынках. Аказваецца, не такі і благі быў лозунг. Сёння для бяднейшай часткі насельніцтва, тых беларусаў, якія лічаць рублёўкі перад наведваннем магазіна, ён вельмі актуальны. А ўвогуле, паважаныя чытачы, калі вы жадаеце, нават ананімна, падзяліцца праблемамі свайго бюджэту, званіце на гарачую лінію. Тэлефон яе на першай старонцы газеты.**

# Сканворд ад «Вольнага Глыбокага»

■ падрыхтаваў Зміцер Лупач




## ГАРАСКОП


**АВЕН**
Месяц перад днём нараджэння не абяцае нічога лепшага. Будзьце ўважлівымі на дарозе на гэтым тыдні, і ўсё ў вас будзе добра. Ва ўсялякім выпадку ў вас знікне смутны настрой.


**ЦЯЛЕЦ**
Сувязі, якія вы ўстанавілі на мінулым тыдні, пачнуць прыносіць карысць. Не чакайце ад гэтых знаёмстваў нечага манументальнага, хутчэй за ўсё яны стануць мімалётнымі, не дапамогуць вам паглядзець на сваё жыццё пад іншым поглядам.


**БЛІЗНЯТЫ**
Блізняты адпраўяцца ў дарогу, далёкую ці блізкую, але распавядуць яны большую частку тыдня ў далечыні ад дома. Задумайцеся над тым, што вы чакаеце ад жыцця, вашы планы пачнуць хутка рэалізавацца.


**РАК**
На гэтым тыдні ракам прыйдзецца даказваць, што яны лепшыя на рабоце. Ад гэтага можа залежыць ваша прафесійнае жыццё на працягу ўсяго наступнага месяца. Скарыстайцеся прыродным шармам і прывабліваcцю, каб прыхіліць да сябе людзей.


**ЛЕЎ**
Калі некаторыя іншыя знакі Задыяка на гэтым тыдні будуць вырашаць асабістыя пытанні, то Львы будуць беспярапынна працаваць. Ваша сіла і напорыстасць вызначыць вас з ліку акружаючых вас людзей.


**ДЗЕВА**
Дзевы ўжо дастаткова блізка падабраліся да намечанай мэты. Ад вас зараз патрабуецца давесці справу да канца і не сайсці раней часу з дыстанцыі.


**ШАЛІ**
Тыдзень няпросты, будзе шмат усяго: і радасці, і расчараванасці, і любоўныя перажыванні. На фоне такой разнастайнасці хтосьці з Шаляў пачне перажываць ў хаце. Нельга сказаць, што гэта выклікае задавальненні дамачадцаў.


**СКАРПІЁН**
Скарпіёны зноў у выдатнай форме. Вось і слаўна. Вы ўжо даўно складаеце планы, звязаныя з кар'ерным ростам. Камусьці прыпаноўваюць змяніць працу на больш высокааплочваемую. Па гэтай нагодзе абавязковы паход па крамах і абнаўленне гардэроба.


**СТРАЛЕЦ**
Акружаючыя вас людзі паспрабуюць узяць ваша жыццё пад кантроль, з чым вы самі будзеце катэгарычна не згодны. Акрамя таго, некаторыя праблемы на працы будуць выбіваць вас з наезджанай каляіны.


**КАЗЯРОГ**
Тыдзень пачнецца зусім прыстойна. Падарункі, госці, грошы – усяго будзе дастаткова. Сумаваць не прыдзецца.


**ВАДАЛЕЙ**
Першая палова тыдня будзе насычанай і яркай. Менавіта зараз трэба рабіць значныя справы, паспяшайцеся, зоркі пакуль спрыяюць вам. Але ў канцы тыдня лёс пачне ўстаўляць вам палкі ў колы.


**РЫБЫ**
У рыб асноўныя падзеі будуць адбывацца на любоўным фронце. Поўня, якая адбудзецца ў панядзелак, напоўніць Рыбак рамантызмам і чулліваcцю. Вам захочацца падтрымкі і ўвагі.




### Харчовыя фарбы для крэму

Белую афарбоўку даюць цукровая пудра, малако, вяршкі, смятана.

Жоўтая фарба атрымоўваецца ад шафрана, разведзенага ў цёплай вадзе, гарэлцы або спірце; ад лімоннай цэдры, ад маркоўнай масы, прыгатаванай з роўных частак масла і расцертай морквы, абсмажанай на працягу 3-5 мінут да размягчэння і працэжанай праз марлю.

Зялёную афарбоўку атрымоўваюць ад соку, аджатага са шпінату.

Карычневую афарбоўку дае моцны настой з кавы.

Чырвоная або ружовая фарбы атрымоўваюцца пры дабаўленні сокаў маліны, клубніц, журавін, парэчак, вішні, чырвоных сіропаў, варэння, віна, а таксама соку буракоў. Буракі дробна нарэзаць, заліць невялікай колькасцю падкісленай вады, давесці да кіпення і працадзіць.

**Торт "Бульба"**

Спачатку прыгатуйце крэм: 100 г сметанковага масла, 100 г згушчонкі, 3 ст. лыжкі сіропа любога варэння, 2 ст. лыжкі какавы, 500 г падсохшага бісквіта, ванільных сухароў або чайнага пячэння.

Разамніце сметанковае масла пакаёвай тэмпературы, уліце ў яго згушчонку і ўзбіце драўлянай лыжкай, пакуль не атрымаецца аднародная маса. Дабаўце сіроп, какава (можна яшчэ сталовую лыжку віна) і добра размяшайце. Затым трэба нацерці на тарцы падсохшы бісквіт, ванільныя сухары або простае чайнае пячэнне, насыпаць у каструлю, палажыць у іх крэм і добра перамяшаць. З гэтага цеста зрабіце круглую ляпёшку, палажыце на талерку і пастаўце ў халадзільнік. Праз 1-1,5 гадзіны пасыпце цукровай пудрай, упрыгожце ягадамі з варэння. Торт гатовы.




"Вольнае Глыбокае"
Тыднёвік паўночна-заходняй Беларусі
Заснавальнік: Уладзімір Скрабатун

Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання № 1099, выдадзена Дзяржаўным камітэтам Рэспублікі Беларусь па друку 25 верасня 1998 г.

Рэдактар і выдавец: п.п. Уладзімір Скрабатун, пасведчанне № 390000860 ад 20. 10. 99; тэлефон: 2 46 14; адрас для допісаў: 211800 г. Глыбокае п/с 2
E-mail: vglybokaye@promedia.by

Меркаванні выдаўца і аўтараў могуць не супадаць. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць і падбор матэрыялаў. Спасылкі на "ВольнаеГлыбокае" абавязковыя

Газета выходзіць адзін раз на тыдзень
Аб'ём – 4 друкаваныя аркушы
Падпісана ў друк 18 лютага 2003 г. у 10[00]
Наклад 2230 паасобнікаў
Юрыдычны адрас: вул. Маскоўская, 121, г. Глыбокае.

Газета набрана і зверстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Вольнае Глыбокае». Надрукавана ў РУП «Перамога», Міністэрства інфармацыі РБ, 222310, г.Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Афсетны друк. Замова № 788.